


Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".
2 верасня 2016 года №36 **(1114)**



**Ці пагражае зачыненне аддзялення банка Нарочы?**
старонка 3

**Пасля паходу ў гараж мужчыну ампутавалі нагу**
старонка 4

**У Маладзечне з'явіўся сквер скульптур**
старонка 6

**Рамонт у кухні: не толькі прыгожа, але і экалагічна**
старонка 21

**Як пераехаць з Астраўца ў Сінгапур і стаць сваім?**
старонка 20

**"У нашым двары кіроўцы ладзяць тэст-драйвы"**
старонка 5

# Як стаць паспяховым прадпрымальнікам на вёсцы

## Мясцовыя бізнесмены дзеляцца досведам, як прыцягнуць спажыўцоў да сваёй справы

**Штогод у Камарове на Мядзельшчыне збіраюцца майстры, якія могуць паказаць сябе як прадпрымальнікі. Яны прыцягваюць увагу многіх гасцей каларытнымі прапановамі.**

старонка 2

Фота з архіва "РГ".

ТЭМА НУМАРА

# Як працуюць індывідуальныя прадпрымальнікі на вёсцы

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Агратурызм, гандаль, нарыхтоўка драўніны, прыдарожны сервіс. Якія магчымасці для індывідуальных прадпрымальнікаў ёсць сёння на вёсцы ў нашым рэгіёне? У чым асаблівасці, плюсы, мінусы іх дзейнасці? Ці прыносіць прыбытак вясковае індывідуальнае прадпрымальніцтва?**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Прадавачка Людміла Трафімчук даглядае кветнік ля магазіна Алены Сцепановіч.

Кансультант Цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва ў вёсцы Камарова на Мядзельшчыне **Эдуард Вайцяховіч** лічыць, што асноўнае адрозненне паміж сельскім і гарадскім прадпрымальніцтвам – рынак. У горадзе – рынак для тавараў і паслуг ёсць. Там, па словах мужчыны, грошы растуць на асфальце. А вось у вёсцы гэты рынак трэба будаваць.

– Чаму моладзь з'язджае ў горад? Бо няма альтэрнатывы ў выбары працы. А калі б яна была, маладыя людзі не ехалі б так лёгка з родных мяцін. Ды і бацькі б падумалі, ці варта дзіцяці наймаць кватэру і стаяць за станком у незнаёмым горадзе, калі ёсць добрая праца ў вёсцы.

## Агратурызм і бізнес-інкубатар – для развіцця вёскі

Традыцыйна лічыцца, што асноўная праца ў вёсцы – гэта сельская гаспадарка. Аднак у такую няпростую галіну хочуць ісці не ўсе. Ды і вёска – гэта не толькі сельская гаспадарка. Таму у свой час у Камарове сталі займацца агратурызмам.

Камарова стаіць на бойкім месцы, на стыку трох абласцей – Мінскай, Гродненскай і Віцебскай. Побач – мяжа з Літвой. Добрыя магчымасці для развіцця сельскага турызму.

– Мы купілі хутар, адрамантавалі яго, – адзначае прадпрымальнік, – Але не імкнуліся да нейкіх новаўвядзенняў. Новае – не значыць лепшае. Таму стараліся захаваць больш ад даўніны. Гэта цяпер цэняць ва ўсім свеце.

Добраўпарадкавалі стары парк. У 2005 годзе ён стаў лепшым у краіне па выніках пятага Рэспубліканскага экалагічнага форуму. Яшчэ ў пачатку 2000-ых гадоў энтузіясты стварылі метадычны дапаможнік па развіцці сельскага турызму.

У гэтым накірунку робяць шмат. Аднак, па словах мужчыны, хочацца большай зацікаўленнасці і захаплення з боку вяскоўцаў.

**Эдуард Вайцяховіч упэўнены: чалавек можа зрабіць шмат. Проста яму патрэбна падтрымка: матэрыяльная, маральная, адукацыйная. І тут павінен дапамагчы бізнес-інкубатар. Яго хочуць стварыць у былым графскім доме.**

Па словах прадпрымальніка, час, калі бізнесоўцамі станавіліся толькі бандыты з сувязямі, даўно прайшоў. Цяпер патрэбен памяркоўны працавіты прадпрымальнік. А для гэтага з чалавекам трэба працаваць.

Эдуард Антонавіч шмат ездзіў за мяжу. Бачыў нямецкія вёскі з насельніцтвам 700 чалавек, дзе паспяхова працавалі прадпрыемствы і рэстараны. Узнікла пытанне: чаму мы не можам так?

Бізнес-інкубатар павінен стаць мадэллю структуры вёскі. Ён дапаможа людзям арганізаваць вытворчасць, дасць памяшканні, забяспечыць мясцовых жыхароў ведамі па эканоміцы і прадпрымальніцтву.

Прадпрыемства ў вёсцы, лічыць Эдуард Антонавіч, – гэта інструмент для яе жыцця і развіцця.

Аднак праект пакуль не зарэгістравалі. У бліжэйшы час прадпрымальнікі чакаюць камісію з Мінаблвыканкама.

## Кава і абед у кафэ ля дарогі

Прадпрымальніца з Вілейшчыны **Тэрэза Сяліцкая** займаецца прыдарожным сервісам. Досвед працы невялікі – яе кафэ адчынілася год таму. Разам з ёй працуюць сын і нявестка. Таму бізнес лічыцца сямейным.

**Анастасія Сяліцкая,** творчы дырэктар кафэ, распавяла, што першы год працы быў няпросты. Магчыма, кажа жанчына, мы вельмі шмат хацелі. А можа, каб людзі жылі крыху лепш, яны б часцей заходзілі ў кафэ і ахвотней развіталіся з грашыма.

Кадры знайшлі ў бліжэйшых вёсках.

– Кастынг не праводзілі, – жартуе жанчына, – аднак сумоўе зладзілі.

Афіцыянткамі працуюць вясковыя дзяўчаты. Повар – таксама мясцовы жыхар, але па нацыянальнасці рускі. Некалі ён пераехаў на Вілейшчыну з Казахстана. Доўгі час працаваў у адным з вілейскіх рэстаранаў.

Сама Анастасія дзеля адкрыцця кафэ скончыла курсы барменаў-афіцыянтаў. А свякроў да пенсіі працавала загадчыкам гаспадаркі, таму неабходныя веды ў яе былі.

У выхадныя наведвальнікаў больш. Гэта людзі, якія едуць з Мінска, Пастаў да бацькоў або адпачываць. У буднія дні мясцовыя жыхары або людзі, што прыязджаюць па працы, заходзяць паабедаць ці папіць кавы.

У планах прадпрымальнікаў – зрабіць кафэ больш прывабным для дзяцей. Сёння ўжо ёсць дзіцячыя сталы, крэслы, дошка для малявання. А хочацца дзіцячую сценку і горкі.

У справе сваёй, кажа Анастасія, яны не расчараваліся. Людзям падабаецца кафэ. У Кнізе скаргаў і прапаноў часта з'яўляюцца запісы з падзякай ад задаволеных кліентаў.

## Ад індывідуальнага прадпрымальніка да прыватнага прадпрыемства

Прадпрынімальніцкай дзейнасці **Алены Сцепановіч** з Ільі 20 год. Жанчына займаецца гандлем. Сёння мае некалькі магазінаў на Вілейшчыне. Справу пачыналі разам з мужам. Цяпер у магазінах працуюць сын **Яўген** і нявеска **Іна**.

– Пачыналі мы ў 1990-ыя гады. Мяне звольнілі з працы цырульніцы, якую я вельмі любіла. Таму прадпрымальніцтва было ледзь не адзінай магчымасцю выжыць.

Спачатку жанчына сама працавала прадаўцом ва ўласным магазіне. Аднак шмат часу патрабавалі адміністрацыйныя справы, дастаўка тавараў.

На працу запрасілі прадаўцоў – мясцовых жанчын. Асноўныя патрабаванні да іх – сумленнасць і камунікабельнасць.

Напачатку, прызнаецца прадпрымальніца, было шмат праблем: праверкі, пратаколы, прыпыненне дзейнасці. Былі часы, што хацелася кінуць гэтую справу. Аднак аптымізму надавалі ўдзячныя пакупнікі.

Паступова справы наладжваліся. Асартымент тавараў пашыраўся. Людзі, якія прыходзілі набываць прадукты, пыталіся пра пакеты, пральны парашок, накрыўкі.

Пачалі прывозіць гаспадарчыя тавары, касметыку, парфуму. А шампуні і фарбы для валасоў жанчыне заўсёды былі цікавыя. Яшчэ з тых часоў, калі была цырульніцай. Цяпер для гігіенічных сродкаў працуе асобны магазін.

Пакупнікі – мясцовыя жыхары, дачнікі, мінчане. Цяпер жыхары сталіцы часцей пачалі ездзіць на Нарач, на Вілейскае вадасховішча. Таму іх таксама можна часта сустрэць у магазіне. А навучэнцы аграрнага каледжа і школьнікі набываюць тут пісьмовыя прылады.

У апошнія гады, заўважае жанчына, працаваць больш спакойна і стабільна:

– Цяпер мы не проста індывідуальныя прадпрымальнікі. Мы – прыватнае ўнітарнае прадпрыемства. А гэта – зусім іншыя патрабаванні і адносіны. Сёння я даю працу ў вёсцы васьмі прадаўцам. Ва ўсіх – сем'і, дзеці. І з гэтым трэба лічыцца.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)



У Нарочы. Фота з архіва “РГ”

# Ці пагражае зачыненне аддзялення банка Нарочы?

ВІЛЕЙКА

**Людзі, што жывуць у Нарочы на Вілейшчыне, не хацелі б застацца без аддзялення “Беларусбанка”.**

Па словах мясцовых жыхароў, у вёсцы аддзяленне працуе тры разы на тыдзень. Аднак ставіцца пытанне аб тым, каб яго зачыніць. Кіраўніцтва лічыць яго непрыбытковым.

Калі яго сапраўды зачыняць, жыхары Нарачы і іншых навакольных вёсак застануцца без банкаўскага абслугоўвання.

Пачуўшы такую навіну, людзі пачалі абурацца.

23 жніўня ля Нарачанскага сельсавета зладзілі сход па гэтым пытанні. Жыхары крытыкавалі кіраўніцтва вёскі, калгаса і банка.

Старшыня Нарачанскага сельсавета **Анатоль Бяганскі** распавёў, што праблема сапраўды ёсць. У Нарочы жыве 860 чалавек. Укладчыкаў у аддзяленні толькі 80. Але банк патрэбны людзям. Там плацяць за камунальныя паслугі і здымаюць наяўныя грошы.

У вёсцы ёсць толькі інфакіёск. Банкаматы, кажа старшыня, ставяць у населеных пунктах, дзе жывуць 2000 і больш чалавек. Па словах Анатоля Бяганскага, кіраўніцтва банка паабяцала, што да пачатку 2017 года аддзяленне будзе працаваць.

– Аддзяленне ўжо пяць год не прыбытковае. Ад яго толькі страты, – кажа кіраўнік Цэнтра банкаўскіх паслуг №632 філіяла №601 “Беларусбанка” **Аляксандр Шырочын**. – Увесь гэты час мы шмат працуем, каб неяк павысіць прыбытковасць гэтага аддзялення. Аднак станоўчых вынікаў няма.

Па словах кіраўніка Цэнтра, філіял пакуль не будуць зачыняць. Каб неяк паменшыць страты, скарацілі колькасць працоўных дзён.

Ад 1 жніўня аддзяленне працуе з кліентамі тры дні на тыдзень.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Павялічваць экспарт турпаслуг, развіваць долевае будаўніцтва

### Пра што гаварылі на пасяджэнні Маладзечанскага райвыканкама

МАЛАДЗЕЧНА

26 жніўня на сумесным пасяджэнні членаў Маладзечанскага райвыканкама і мясцовых Саветаў дэпутатаў гаварылі пра сацыяльна-эканамічнае развіццё раёна за першае паўгоддзе 2016 года.

Важным пытаннем, па словах старшыні райвыканкама **Аляксандра Яхнаўца**, застаецца стварэнне працоўных месцаў. Іх створана 289. 168 – за кошт з’яўлення новых арганізацый.

Па словах намесніка старшыні **Генадзя Актанаровіча,** дасягнуты паказчыкі экспарту тавараў і замежных інвестыцый. Апошняга паказчыка дасягнулі дзякуючы апаратару сувязі “Вэлком”. Неабходнага ўзроўню экспарту тавараў дапамаглі дасягнуць малаказавод, хлебазавод, “Велес-міт”, “Акдзімол” і некаторыя іншыя прадпрыемствы.

“ЗМК”, “Забудова”, зверасаўгас, “Спецбудмеханізацыя” пакуль прыносяць страты. Але апошнім часам палепшылася сітуацыя ў “Забудове”. Прычына страт, на думку намесніка, – недастатковы прафесіяналізм кіраўнікоў прадпрыемстваў, не эфектыўная работа маркетынгавых служб.

Па словах начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі **Мікалая Каткаўца**, тэмп развіцця гаспадаркі знізіўся. Асноўная прычына – спыненне дзейнасці прадпрыемства “ЕўраоптАГРА” у Алёхнавічах. У паўгоддзі добра папрацавала “Усход-АГРА”, а таксама гаспадаркі ў Палачанах, Хажове, Селецах, Лебедзеве, Беразінскім.

Застаецца праблема 16 будынкаў, якія замацаваны за гаспадаркамі, але не выкарыстоўваюцца.

Намеснік старшыні **Вадзім Цар** распавёў, што ў раёне працуе больш за 30 будаўнічых арганізацый. Будуецца сем жылых дамоў, фарлевая гаспадарка і свінакомплекс. Запланаваны шматкватэрныя дамы на вуліцах Спаская і Машэрава, прыватныя дамы. У наступным годзе пабудуюць аб’екты інжынерна-транспартнай інфраструктуры ў дзясятым мікраёне. Гаварылі і пра больш актыўнае долевае будаўніцтва.

**Таццяна Ліхадзіеўская** распавяла пра справы сацыяльнай сферы, культуры, адукацыі. Нарадзілася 836 дзяцей, што на 17 больш, чым за мінулы перыяд. Памерлі – 905 чалавек. Гэта таксама на 17 больш.

На 413 шлюбаў прыйшлося 253 разводы.

Школы ўкамплектаваны кадрамі. Стала больш дашкольных груп.

На выпускных экзаменах вучні паказалі дастатковы ўзровень ведаў. Павялічылася колькасць 100-бальнікаў на тэсціраванні. Сёлета іх дзесяць, а ва ўсёй Мінскай вобласці – 37. Студэнтамі ВНУ сталі 65,3% выпускнікоў.

Медыцынскія ўстановы актыўна працавалі ў галіне пазабюджэтнай дзейнасці. Паказчык экспарту медыцынскіх паслуг не быў дасягнуты. Па словах Таццяны Ліхадзіеўскай, адна з прычын – агульная сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў краіне.

У галіне культуры патрэбны харэографы і выкладчык па класе гітары.

У раёне працуе сем спартыўных устаноў. 21 від спорту з тых, што развіваюцца ў Маладзечне, з’яўляецца алімпійскім. Ёсць патрэба ў трэнерах.

Не выканананы паказчык экспарту турыстычных паслуг. Менш людзей стала адпачываць у санаторыі “Сасновы бор”. Плануюць, што ў наступным годзе маладзечанская гасцініца прыме больш замежных спартсменаў. Ёсць прапановы па развіцці паляўнічага турызму ад Таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

Забяспечана кадрамі галіна сацыяльнай абароны насельніцтва. 107 сямей атрымала мацярынскі капітал.

Аксана ЯРАШОНАК.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.08 | 1.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9522 | **1,9605** |
| Еўра | 2,2030 | **2,1851** |
| Злоты, 10 | 5,1044 | **5,0393** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0056 | **3,0154** |
| Грыўня, 100 | 7,6748 | **7,6164** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 31.08** | | |
| Еўра | 2.1800/2.2100 | **2.1700/2.1900** |
| Долар ЗША | 1.9350/1.9550 | **1.9450/1.9620** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 24.08 | | 31.08 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | 7,00 | 70 000 | 7,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 130 000 | 13,00 | 120 000 | 12,00 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 25 300 | 2,53 | 25 300 | 2,53 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | 0,69 | 6 900 | 0,69 |
| Часнок, 1 кг | 69 500 | 6,95 | 64 900 | 6,49 |
| Капуста, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 4 900 | 0,49 |
| Морква, 1 кг | 6 900 | 0,69 | 5 500 | 0,55 |
| Баклажаны, 1 кг | 13 900 | 1,39 | 11 500 | 1,15 |
| Лімоны, 1 кг | 53 500 | 5,35 | 56 500 | 5,65 |
| Апельсіны, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 26 500 | 2,65 |
| Мандарыны, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 24 900 | 2, 49 |
| Нектарыны, 1 кг | 36 900 | 3,69 | 34 900 | 3, 49 |
|Ківі, 1 кг | 33 000 | 3,30 | 38 500 | 3,85 |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | 0,60 | 5 000 | 0,50 |
| Памідоры, 1 кг | 8 000 | 0,80 | 7 500 | 0,75 |
| Агуркі, 1 кг | 11 900 | 1,19 | 9 900 | 0,99 |
| Перац, 1 кг | 11 900 | 1,19 | 10 500 | 1,05 |
| Кавун, 1 кг | 5 500 | 0,55 | 5 500 | 0,55 |
| Дыня, 1 кг | 10 000 | 1,00 | 12 000 | 1,20 |
| Кабачок, 1 кг | 4 500 | 0,45 | 4 000 | 0,40 |
| Вінаград, 1 кг | 35 000 | 3,50 | 33 000 | 3,30 |
| Бананы, 1 кг | 21 900 | 2,19 | 21 500 | 2,15 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 9 900 | 0,99 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 19 500 | 1,95 | 19 500 | 1,95 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |



Фота забяспечана чытачом "РГ".

Пасля здарэння.

## "Мазда" сутыкнулася з матацыклам

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра здарэнне распавёў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош:**

– 26 жніўня ў 19:50 жыхар Маладзечна 1963 года нараджэння, кіруючы аўтамабілем "Мазда", выязджаў са стаянкі магазіна "Алмі", які на вуліцы Тамары Дудко, і не саступіў дарогу матацыклу. Кіроўца матацыкла 1989 года нараджэння, жыхар Маладзечна, кіруючы "Ямахай", ехаў па вуліцы Тамары Дудко. У выніку сутыкнення матацykліст атрымаў цялесныя пашкоджанні. Сярод іх закрытая траўма жывата і грудной клеткі, закрытая чэрапна-мазгавая траўма, страсенне мазгоў і іншыя.

Матацыкл быў без тэхагляду, адзначае Сяргей Бартош.

Аддзел інфармацыі.

## "Лада" наехала на мужчыну, які ляжаў на дарозе

**МАЛАДЗЕЧНА**

Адбылося гэта на чацвёртым кіламетры аўтадарогі Маладзечна-Хоўхлава, паблізу вёскі Хажова Маладзечанскага раёна.

Пасля гадзіны ночы 23 жніўня 47-гадовы маладзечанец на "Ладзе"ехаў у напрамку Хоўхлава. Машына наехала на 26-гадовага мужчыну, які ляжаў на праезнай частцы ў паласе руху аўтамашыны. Святлоадбівальнымі элементамі ён не быў пазначаны.

У выніку мужчына атрымаў цялесныя пашкоджанні. Яго шпіталізавалі ў траўматалагічнае аддзяленне Маладзечанскай ЦРБ.

Паводле ДАІ Мінскай вобласці.

## "Аўдзі" з'ехала ў кювет і сутыкнулася з дрэвам

**МЯДЗЕЛ**

Здарэнне адбылося 25 жніўня каля шасці раніцы. Мядзельскія выратавальнікі атрымалі сігнал пра аварыю на другім кіламетры дарогі Р-60 "Купа-Занарач-Брусы" побач з вёскай Сваткі. Неабходна было дэблакіраваць пацярпелых.

"Аўдзі-80" з'ехала ў кювет і сутыкнулася з дрэвам. Работнікі МНС дэблакіравалі з салона кіроўцу і двух пасажыраў.

Пацярпелыя з траўмамі рознастайнай ступені цяжкасці дастаўлены ў бальніцу.

Паводле Міністэрства па надзвычайных сітуацый.

## На Маладзечаншчыне "Фольксваген-Пасат" збіў раварыстку

**МАЛАДЗЕЧНА**

Адбылося здарэнне каля сямі гадзін раніцы 25 жніўня ў вёсцы Дубрава.

30-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна ехаў на аўтамашыне "Фольксваген-Пасат". На вуліцы Дыбоўскага машына наехала на 47-гадовую раварыстку. Яна выехала з другараднай дарогі злева па ходзе руху машыны.

У выніку жыхарку Маладзечанскага раёна шпіталізавалі. Яе дыягназ: адкрыты многааскольчаны перелом малабярцовай косці, шырокая скальпаваная рана правай галёнкі, закрыты перелом абедзвюх касцей правага перадплечча.

Паводле ДАІ Мінскай вобласці.





Фота zubi.net

І ў гаражы варта быць вельмі пільным.

# Пасля паходу ў гараж ампутавалі нагу

**МАЛАДЗЕЧНА**

**– Здарэнне адбылося ў чацвер, 25 жніўня, – расказваюць "Рэгіянальнай газеце" суседзі па гаражы пацярпелага.**

Мужчыны, што прыйшлі ў гаражы, якія месцяцца па вуліцы Тургенева, пачулі прыглушаныя крыкі, якія даносіліся з аднаго з зачыненых гаражных боксаў.

Паколькі дзверы былі запёртыя знутры, давялося выклікаць МНС.

Выратавальнікі, што прыбылі на месца здарэння, адкрылі дзверы гаража і ўбачылі, што ў яме захрас сталы мужчына. Драўляны люк быў адчынены, на металічнай лесвіцы павіс мужчына.

Аказалася, што ён прыйшоў у гараж, хацеў спусціцца ў яму, як кажуць суседзі, па закаткі, але спатыкнуўся на лесвіцы. Нага захрасла, мужчына ўпаў уніз галавой.

Суседзі па гаражы дакладна не маглі сказаць, колькі часу мужчына правёў у такім становішчы: адны казалі, што суткі, другія – два дні.

Мужчына жыў адзін, дзеці ў яго ў Мінску, тэлефон застаўся ляжаць наверсе.

Па каментар мы звярнуліся да Маладзечанскага аддзела МНС.

Там распавялі, што такі выпадак насамрэч быў. Дапамога работнікаў МНС спатрэбілася, каб адкрыць дзверы і прывесці мужчыну ў "вертыкальнае" становішча.

Ён шпіталізаваны.

Намеснік галоўнага доктара па медыцынскай частцы Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы **Ігар Салагуб** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што траўма аказалася настолькі сур'ёзнай, што нагу давялося ампутаваць.

Пацярпеламу 72 гады, ён у сераду, 31 жніўня, яшчэ знаходзіўся ў рэанімацыі.

Ігар Салагуб удакладніў, што мужчына захрас не ў лесвіцы, а ў металічным капкане, таму сам выбрацца не змог.

– Ён ляжаў на нахіленай лесвіцы, а не візеў уніз галавой. Не хачу ўдавацца ў філасофію, што было б, калі б ён прабыў два дні ўніз галавой, але наступствы, мяркую, былі б куды больш сур'ёзнымі.

**Наталля ТУР.**

## Затрыманыя рабаўнікі, якія ўчынілі напад на "Беларусбанк"

**МАЛАДЗЕЧНА**

Міліцыя ўстанавіла і затрымала дваіх непрацуючых жыхароў Валожына – 38- і 36-гадовага мужчын, якіх падазраюць у здзяйсненні разбойнага нападу на аддзяленне філіяла № 601 ААТ "АСБ "Беларусбанк"". Пра гэта паведамілі ў МУС.

Рабаванне аддзялення "Беларусбанка" адбылося ўвечары 21 красавіка ў пасёлку Беразінскае Маладзечанскага раёна.

Неўсталяваны мужчына, пагражаючы работніку аддзялення падобным да пісталета прадметам, выкраў не менш за 60 мільёнаў недэмінаваных рублёў, пасля чаго схаваўся.

Па факце разбою, здзейсненага з мэтай завалодання маёмасцю ў буйным памеры, была ўзбуджаная крымінальная справа.

## На будаўнічай пляцоўцы АЭС загінуў чалавек

**АСТРАВЕЦ**

Пра гэта паведамляе аддзел інфармацыі і грамадскіх сувязяў Беларускай АЭС.

Паводле заявы, 26 жніўня пры выкананні будаўнічых работ на пляцоўцы будоўлі Беларускай АЭС у расійскай субпадраднай арганізацыі адбыўся няшчасны выпадак. У выніку загінуў чалавек.

Праводзіцца расследаванне

Аддзел інфармацыі.

## Скраў ровар у дзень нараджэння

**ВАЛОЖЫН.**

У Валожыне скончылася расследаванне за крадзеж.

Мясцовы жыхар у дзень свайго паўналецця скраў ровар, які стаяў на першым паверсе яго дома. Транспарт належаў жыхарцы адной з кватэр.

Жанчына звярнулася ў міліцыю. Малады чалавек вярнуў ровар уладальніцы.

Валожынскі следчы камітэт нагадвае, што нявартa захоўваць маёмасць на лесвічных пляцоўках.

Пра гэта паведаміў следчы Валожынскага следчага камітэта **Вячаслаў Беланавіч.**

## Мужчына, які знік з кемпінгу, патануў у вадасховішчы

**ВІЛЕЙКА**

24 жніўня мужчына знік на суткі з месца адпачынку.

На наступны дзень на кемпінг, што на Вілейскім вадасховішчы, выехалі выратавальнікі і супрацоўнікі міліцыі.

Цела мужчыны знайшлі ў вадасховішчы.

Пра гэта паведаміў начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Кіроўцы ў нашым двары ладзяць тэст-драйвы

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыхары вуліцы Магістральнай просяць пакласці ў двары ляжачага паліцэйскага.**



Фота Наталлі ТУР

Паблізу дарогі дзеці катаюцца на роварах. А бацькі вымушаныя кантраляваць кожны крок дзяцей па складзеным графіку.

– Калі дом толькі будаваўся, – расказвае жыхарка дома №5 **Ганна Сарока**, – нам нагул абяцалі, што ад гаражэй, што па вуліцы Касманаўтаў, пры ўездзе ў наш двор паставяць слупкі, каб ён быў непраязным. Але будоўля завяршылася, на дарозе паклалі асфальт. І пры ўездзе паставілі знак “Галоўная дарога”.

Дзіцячая пляцоўка, адзначае Ганна, месціцца якраз на скрыжаванні двух дарог: адна вядзе з Магістральнай на Касманаўтаў, другая – у двары.

– На дзіцячай пляцоўцы гуляюць дзеткі такога ўзросту, якім ужо нецікава корпацца ў пясочніцы пад наглядам мам і бабуль. Яны гуляюць у даганялкі, ездзяць на роварчыках, ганяюць мяч. І колькі разоў ужо замірала сэрца, калі раптам той мячык каціўся ў бок дарогі.

Жыхары параіліся і вырашылі звярнуцца ў ДАІ з просьбай пакласці ў двары “ляжачы паліцэйскі”, а пры з’ездзе з вуліцы Магістральнай усталяваць дарожны знак “Жылая зона”, які б нагадваў кіроўцам, што тут хуткасць не павінна перавышаць 20 км/г.

У ДАІ патлумачылі, што на просьбу жыхароў яны адказалі ў 10-дзённы тэрмін. Аднак, справу разгледзелі не на карысць жыхароў і іх дзяцей.

У адказе напісана, што ў двары няма неабходных умоў, каб усталяваць штучную няроўнасць.

У пункце 13.3. СТБ “Тэхнічныя сродкі арганізацыі дарожнага руху” сказана: “штучныя няроўнасці варта ўжываць на участках канцэнтрацыі ДТЗ аўтамабільных дарог агульнага карыстання і вуліц населеных пунктаў, а таксама іншых участкаў, якія могуць быць аднесеныя да небяспечных для дарожнага руху: пазначаных пешаходных пераходах, на якія маюцца выхады на праезную частку з дзіцячых устаноў, масавага адпачынку, гандлёвых цэнтраў, уездаў у тую зону, дзе праводзяцца работы, пад'ездаў да скрыжавання з галоўнай дарогай і падобных участкаў.”

– Можа, яно і так, але чаму ў ДАІ не падумалі, – працягвае Ганна Сарока, – што непадалёк ад нашага двара месціцца дзіцячы садок №24. Так, яго вароты выходзяць на вуліцу Вялікі Гасцінец, але таты, што прывозяць дзяцей на машынах, паркуюцца ў нашым двары. Вы б бачылі, які тут натоўп каля васьмі раніцы!

Праз двор на Магістральнай цяпер вельмі зручна ездзіць на вуліцу Касманаўтаў.

– А там гаражы, СТА і шынамантаж. Чым не месца правядзення прац? У мяне адчуванне, што кіроўцы пасля таго як забяруць сваю машыну з рамонту, ладзяць у двары тэст-драйв, толькі матоpy равуць.

Дарэчы, дадае жанчына, ёсць у двары і “свая” машына, якую пазнаюць здалёк.

– Ездзіць тут адзін малады кіроўца на прыгожым “Фольксвагене”. Дык мы ад Магістральнай чуем, што ён набліжаецца. Дзяцей трымаем абедзвюма рукамі.

Пры гэтым, па словах ДАІ, гэта і так зразумела, што тут жылая зона і ўсталяванне дадатковых знакаў не патрабуецца.

– Я не разумею толькі аднаго, няўжо ўладам шкада асфальту, каб пакласці тут гэтую штучную няроўнасць, – кажа Ганна Сарока. – Магчыма тады нам, бацькам, не прыйшлося б складаць графік дзяжурства на дзіцячай пляцоўцы. І не пляваць кожны раз праз левае плячо, паўтараючы выраз: “Пакуль не загрыміць, мужык не перахрысціцца”.

**Наталля ТУР.**

## У Вілейцы правадзілі лета яркімі фарбамі, пляцоўкамі з дзіцячымі гульнямі і спаборніцтвамі па воркауту

ВІЛЕЙКА

**Свята “Бывай, лета!” прайшло ў Вілейцы ў парку ў апошнія летнія выхадныя, 28 жніўня.**

Самыя дужыя і спрытныя маглі прадэманстраваць сваю сілу і спрыт на воркаут-пляцоўцы.

Працавалі пляцоўкі для дзяцей. Яны маглі згуляць у забытыя гульні: “Алі-баба”, “Мора хвалюецца раз”, “Выкідала”, “Гарачая бульба” і іншыя.

Аднак найбольш моладзі спадабаўся заключны этап мерапрыемства – фестываль фарбаў “Холі”. Удзельнікі па камандзе вядучага падкідалі фарбы, тым самым стваралі рознакаляровыя аблокі.

– Мне вельмі спадабаўся фестываль, – радуецца **Валерыя Ляшковіч**. – І настрой і адзенне былі сапраўды яркімі. Аднак не шкада было, што запэцкалася. Яшчэ і цяпер успамінаю гэты дзень са шчаслівай усмешкай. Думаю, што гэты момант запомніцца надоўга. Вельмі хочацца, каб такія фестывалі ў Вілейцы праходзілі як мага часцей.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Валерыі ЛЯШКОВІЧ

На святе “Бывай, лета!” у Вілейцы.



Фота забяспечана Таццянай САБАЛЕЎСКАЙ

Форму можна было прымерыць.

## Баявая вопратка выратавальніка... ў краме

ВІЛЕЙКА

**Напярэдадні навучальнага года ў Вілейскім раёне праходзіла рэспубліканская прапагандысцкая акцыя “У цэнтры ўвагі – дзеці!”.**

Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях праводзілі яе ў краме “Дзіцячы свет” і ў кнігарні “Кругагляд”.

У аддзеле, які спецыялізуецца на продажы канцылярскіх тавараў, можна было ўбачыць баявую вопратку выратавальніка, вогнетушыльнік, аўтаномны пажарны апавяшчальнік.

Пакупнікі разглядалі прыгожую форму, задавалі пытанні. Адзін хлопчык нават папрасіў у таты купіць форму, але потым яму патлумачылі, што яна не прадаецца і прызначаецца для дзяцей, пакінутых без нагляду.

У цэнтры крамы абсталявалі куток бяспекі. Тут паказалі малюнкі, на якіх прадставілі розныя небяспечныя сітуацыі, правілы паводзінаў у іх.

Дзеці маглі пагартаць часопісы “Юны выратавальнік”, даведацца прынцып дзеяння аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка. Пакупнікі атрымалі прадукцыю з нумарамі тэлефонаў экстранных службаў і прафілактычнай інфармацыяй.

**Таццяна САБАЛЕЎСКАЯ, інспектар групы прапаганды і навучання райаддзела МНС.**

## Рыбакі Вілейшчыны перамаглі ў конкурсе

ВІЛЕЙКА

Каманда Вілейскага доследнага лясгаса заняла другое месца ў спаборніцтвах па рыбнай лоўлі.

Мерапрыемства зладзілі 27 жніўня супрацоўнікі капыльскага вопытнага лясгаса. Рыбалку арганізавалі ў лесапаляўнічай гаспадарцы на вадасховішчы Руднікі.

Вілейскую каманду прадстаўлялі **Алег Лянкевіч** і **Ігар Лапіцкі** з любанскага лясніцтва і **Алясей Князькоў** з касцяневіцкага.

Рыбалка доўжылася тры гадзіны. Умовы конкурсу дазвалялі карыстацца толькі адной паплаўковай вудай.

У выніку рыбакі з вілейскага лясгаса занялі другое каманднае месца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Нарач стала у расіян адным з найпапулярнейшых напрамкаў у СНД

МЯДЗЕЛ

Возера Нарач увайшло ў тройку самых папулярных курортных напрамкаў СНД гэтым летам сярод расіян. Улічвалі дадзеныя пошуку і броні гасцініц і апартаментаў сервісу пошуку гатэляў RoomGuru.ru з 1 чэрвеня па 31 жніўня.

У топ-5 самых папулярных у турыстаў курортаў краін СНД увайшлі Ісык-Куль (Кыргызстан), Баравое (Казахстан), Нарач (Беларусь), Ленкарань (Азербайджан) і Севан (Арменія).

Па дадзеных сервісу на возера Нарач летам прыязджалі у сярэднім на 11 дзён.

**Паводле БелТА.**

*Аўтарская калонка*

*Наталлі Тур*



## Падарыце настаўніцы ... шпроты

**На календары 1 верасня.**

Проста чацвер, звычайны працоўны дзень, але як толькі не называюць гэтае свята. І хрэстаматыйны Дзень Ведаў, і Міжнародны Дзень Прадавачак кветак, і Дзень Вызвалення бацькоў ад дзіцячага іга.

Адным словам, свята ёсць свята і адзначаць яго трэба.

І вось ужо 31 жніўня вуліцы напаўняюцца кветкамі, якія нясуць дамоў шчаслівыя бацькі, каб заўтра аддаць іх у рукі дзіцяці са словамі: "Трымай, падорыш настаўніцы на лінейцы!".

А 1 верасня спацелымі маленькімі далонькамі, у якіх з усіх сілаў сціскалі букет з купленых ружаў, або з гладыёлусаў і астраў, якія вырасціла бабуля ў сваім агародзе, дзіва-стварэнне з вялізнымі бантамі, або джэнтльмен у першым у сваім жыцці гальштуку, уручаюць свой букецік НАСТАЎНІЦЫ.

А такіх букецікаў у настаўніцы ў гэты дзень як мінімум 25.

– Дзякуй, дзякуй, дзякуй, – аўматычна адказвае чалавек, у якога сёння аднаго ні разу не свята, а пачатак катаргі даўжынёй у дзевяць месяцаў, усміхаецца і зноў – дзякуй, дзякуй, дзякуй. І вось ужо з букетаў на стале вырастае гара з пялёсткаў, бутонаў, лістоў, паперы і цэлафану.

Гэта пазней, пасля таго, як дзяцей забяруць дадому ці хто торцік і віншаваць з першым званком, настаўніца пачне селекцыю свайго скарбу.

– Ружы, лілеі, герберы, – самыя прыстойныя букеты нясу дадому, – разважае настаўніца. – Тыя, што прыгожыя, але не на дзесяць балаў, пакіну на працоўным стале. Так, прыгожым сціпленькім букецікам падзялюся з вахцёрам, з прыбіральшчыцай. Ой, мама дарагая, яшчэ засталося 15 букетаў! Дзе тут у нас вядро для смецця? Запхну ўсе, хай стаяць, пакуль засохнуць.

А калі на хвіліначку, як гаворыцца, "падбіць бабкі". Гэта ж па самых сціплых падліках атрымоўваецца: 25 вучняў, кожны з іх падарыў букет, які каштуе прыкладна 5 рублёў. Агульная сума 125 рублёў.

Эх, а на гэтыя ж грошы можна было б купіць новую сумку, каб у яе змяшчаліся 25 сшыткаў, якія трэба будзе насіць дамоў і правяраць!

А калі пафантазіраваць і ўявіць, што каб замест кветак дзеці прыносілі каўбасу, шпроты, каву. Глядзіш, і твар у настаўніц 1 верасня быў бы больш задаволены і шчаслівы.

– Я куплю кветкі не настаўніцы, а свайму дзіцяці, – прызналася мне адна мама. – Каб у яго памяці 1 верасні засталося святам, калі ён нясе ў школу прыгожы букет.

Я не ведаю, якой філасофскай думкай закончыць свае разважанні на тэму 1 верасня. Магчыма, гэта проста зайздрасць. Пасля таго, як я адпрацавала ў школе пяць год, для мяне гэта цяпер проста працоўны дзень, звычайны чацвер.

**А ўсіх дзяцей, бацькоў і прадавачак кветак – са святам!**

І ўсім настаўнікам моцнага здароўя і аптымізму. Хутка канец мая, вось тады адсвяткуеце па-поўнай.





"Антычная рэпліка" Аляксандра Шомава.

# У Маладзечне з'явіўся сквер скульптур

**МАЛАДЗЕЧНА**

**30 жніўня ў Маладзечне адкрылі сквер дэкаратыўна-паркавых скульптур.**

На адкрыцці прысутнічалі кіраўнікі раёна, жыхары горада, скульптары.

Сквер размясціўся ля Палаца культуры. У ім – скульптуры **Вадзіма Мацкевіча**, **Сяргея Ермаловіча**, **Аляксандра Шомава**, **Валянціна Борздага**, **Ігара Засімовіча**, **Юрыя Кандрашова**.

Аб'яднаны ўсе творы агульнай назвай "Мелодыя камянёў". У кожнай скульптуры адчуваецца тэма музыкі.

Напрыклад, **Спартак Аруцюнян** прысвяціў твор грамадскаму дзеячу і кампазітару, колішняму ўладальніку Маладзечна **Міхаілу Клеафасу Агінскаму.**

**Аддзел інфармацыі**

## Музей чакае віртуальных і сапраўдных наведвальнікаў

**ВІЛЕЙКА**

**Ад 24 жніўня экспазіцыі Вілейскага краязнаўчага музея можна ўбачыць у інтэрнэт-прасторы.**





У вілейскім музеі.

Цяпер музей прадстаўлены ў рэспубліканскім праекце "Музеі Беларусі з БЕЛКАРТ". Стваральнікі папулярызуюць музейную справу ў рэспубліцы і знаёмяць людзей з культурнай спадчынай краіны.

Старшы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Коласава** была вельмі задаволена прапанаваў арганізатараў. Яна лічыць праект захапляльным і карысным. Не выходзячы з дома, можна "прагуляцца" па музейных залах.

Супрацоўнікі музея ўпэўнены, што ад удзелу ў праекце ў іх стане больш наведвальнікаў. Людзі пазнаёмяцца з экспанатамі ў інтэрнэце і, магчыма, захочуць убачыць іх у сапраўднасці. Тым больш, што музей прадстаўляе вельмі каштоўныя экспанаты. Сярод іх калекцыі шкла і маляваных дываноў, якія выстаўляліся ў розных гарадах Беларусі.

Віртуальныя наведвальнікі змогуць даведацца пра гісторыю музея і мерапрыемствы, якія ладзяць яго супрацоўнікі. Ёсць магчымасць даведацца аб праектах "Дзве вайны – памяць адна" і "Тыдзень калекцыянера", якія ў кастрычніку прадстаўляць на Міжнародным форуме "Музеі Беларусі" ў Магілёве.

– У віртуальных музеях цікава "пабываць" музейным работнікам, каб пашырыць уласны досвед, – кажа Вольга Коласава. – А падарожнікам такі праект дапаможа выбраць, куды лепш паехаць у вандроўку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вучні з Нарачы 1 верасня пайшлі ў новую школу

**МЯДЗЕЛ**

Новая сярэдняя школа ў курортным пасёлку Нарач (Купа) на Мядзельшчыне, разлічаная на 510 месцаў. Знаходзіцца яна ў мікрараёне "Аэрапорт".

Узвядзенне новага будынку пачалося летась у снежні. Бо ранейшая сярэдняя школа ў пасёлку была разлічаная ўсяго на 200 вучняў, займаліся ў ёй у дзве змены. За аснову ўзялі праект школы, якая пабудаваная на Астравеччыне. Але шмат чаго ў ім удасканалілі.

У новай школе вялікія актавая і спартыўныя залы, трэнажорная зала. На вуліцы можна займацца на стадыёне, на розных спартыўных пляцоўках, ёсць гульнявыя пляцоўкі для дзяцей, хакейная каробка, пляцоўка для вывучэння правілаў дарожнага руху.

У школе зрабілі надзейную сістэму бяспекі: шмат відэакамер, сучасная прапускная сістэма.

**Аддзел інфармацыі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• BMW 316i, 1992 г.в, у выдатным стане, тэхагляд без праблем, газ-бензін. Цана дагаворная. Т. (8-029) 8796742.

• Аўдзі А-3, 2009 г.в, 1,4 бензін, цёмна-шэры металік, усе опцыі. Т. (8-029) 6673211, (8-029) 7491540.*

• Аўдзі-100, 1984 г.в, па запчастках, 1989 г.в — панэль, дзверы, печка. Т. (8-025) 9171425.

• Аўдзі-100, 1989 г.в, 2,4д, электралюстэркі, абагрэў люстэрак, люк, 1600 руб, без торгу. Т. (8-029) 8716507.

• ВАЗ-2107, 1992 г.в, 1,5 бензін. Т. (8-029) 2639924.*

• ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.

• ЗІЛ-130, дызель Д245, самазвал-сельгаснік, добры стан. Т. (8-029) 8777563.

• Івека Турба-Дэйлі 49-10, 1997 г.в, вібаста, падагрэў рухавіка на 220 в. Нядорага. Т. (8-029) 6470154, (8-029) 8630321.*

• Мерседэс-Бэнц 180С, 1998 г.в, бензін, сіні металік, кандыцыянер. Т. (8-029) 7578023, (8-029) 5618155.

• Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.

• ФВ Т-2, 1989 г.в, цёмна-сіні, грузавы, 2 000 руб. Т. (8-029) 3214361.*

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637.*

• З/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*

• Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*





**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра агул. пл. 39,9 кв. м. у Маладзечне па вул. Садовай, д. 11. Т. (8-044) 7760964.

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 1139658.*

• 3-пакаёвая кватэра в раёне завода Зеніт у Вілейцы. Т. (8-029) 3346820, (8-029) 5098330.*

• 3-пакаёвая кватэра ў аг. Любань. Т. (8-033) 6362026, (8-029) 1212627.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• Гандлёвы павільён у Вілейцы (раён СШ №5). Т. (8-033) 6024918 Алена.*

• Гараж 6х4 м у Вілейцы ГК “Антэй”. Т. (8-029) 1130550.*

• Гараж у Вілейцы ў ГБК-4, 15 метраў ад прыпынка чыгункі “Зеніт”. Пліты перакрыцця, з ямай на ўвесь гараж. Тэрмінова! Т. МТС (8-029) 7085902.

• Дача каля вёскі Ласі Маладзечанскага раёна, садовы кааператыў “Брыльянт”. Домік блочны, дагледжаны ўчастак. Ад чыгункі 1 км 400 м. Т. (8-033) 6407558.*

• Дача па адрасе Маладзечанскі р-н, Мясоцкі с/с, СТ “Будаўнік-81”. Т. (8-0176) 545823.

• Дом драўляны ў Мядзеле з уцепленай мансардай. Усе цэнтральныя камунікацыі. Гаспадарчыя пабудовы. Участак 8 сотак. Т. (8-029) 1900167.*

• Дом жылы на хутары Вайстом Смаргонскага р-на. Т. (8-0176) 546048, МТС (8-029) 5738055.*

• Дом у в. Крывое Сяло Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6036598.*

• Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*

• Дом у в. Парэчча Маладзечанскага р-на. Т. (8-029) 8622058.*

• Дом у в. Цынцавічы Вілейскага р-на, сад, агарод, калодзеж. Можна на дачу. Т. (8-029) 5644936.*

• Дом у Вілейскім р-не. Нядорага. Т. (8-029) 2623201.*

• Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 3999382.*

• Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*

• Дом, 13 км ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.

• Паўдома на беразе Вілейскага вадасховішча в. Вязынь, сад, агарод. Т. (8-01771) 35167, (8-044) 7950768.

### ЗДАМ

• 4-пакаёвую мэбліраваную кватэру ў Маладзечне, можна для студэнтаў. Т. (8-033) 3786807, (8-0176) 741594.

• У арэнду ралет 12 кв.м. у пабудове міні-рынку г. Ашмяны, 80 руб./месяц. УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

### НАЙМУ

• Кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5329229.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

• Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абітурыент! Матэматыка, фізіка: падтрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звена. Рэпетытарства: вышэйшая матэматыка, чарчэнне, права. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077.*

• Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*

• Агароджы з профнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду, нафту, газ. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў. ІП Шафаловіч Д.С. УНП 690534457. Т. (8-033) 3129753, (8-029) 9814660.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 5544175, (8-029) 3469417.*

• Добраўпарадкаванне тэрыторыі, месцаў пахаванняў. ІП Пякарскі А.П. УНП 691897647. Т. (8-029) 2779204.*







## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Хлопчык з турэцкага горада Мармарыс не хоча пакідаць Ілью

ВІЛЕЙКА

**“Не хачу пакідаць Беларусь,” – не раз чуў дзед Іван такія словы ад унука Эрэна. Хлопчык жыве ў Турцыі. Але кожнае лета прыязджае ў Ілью да бабулі з дзядулем. Кажа, тут яму падабаецца.**

У жыцці так склалася, што жыхарка нашага аграгарадка **Вікторыя Сак**, адпачываючы ў Турцыі, пазнаёмілася з мясцовым юнаком. Маладыя людзі ўпадабалі адзін аднаго і пабраліся шлюбам.

Нарадзіліся дзеці: хлопчык **Эрэн** і дзяўчынка **Ачэлія**. Штогод летам матуля разам з малымі наведвае родную Ілью. Тут і бацькоўскі дом, і прырода, і мясцовыя жыхары палюбіліся маленькім гасцям з замежнай краіны.

Эрэну ўжо сем гадоў. Ён выдатна размаўляе і па-руску, і па-турэцку. А за летнія месяцы папаўняе моўны запас і беларускімі словамі.

Ачэлія таксама размаўляе на дзвюх мовах. А дакладней, вучыцца размаўляць. Бо яшчэ зусім малая.

Сям’я **Сакаў** жыве на вуліцы Моладзевай. Тут асабліва шмат дзятвы. І гэта даспадобы Эрэну, які нічым ад вясковых хлапчукоў не адрозніваецца. Хіба што скура ў яго больш загарэлая.

У Ільі хлопчыку сапраўдная вольніца. Здараецца, што і матулі, і бабулі з дзядулем цяжка адшукаць і дагукацца яго на абед ці вячэру. Ад беларускай ежы дзетак-замежнікаў проста не адарваць.

Ды час бяжыць. Пара збірацца ў школу.

Днямі праводзіць Эрэна ў другі клас у родны Мармарыс сабраліся юныя жыхары вуліцы Моладзевай. Яны зладзілі невялікі канцэрт на пляцоўцы ля дома Сакаў. Маленькія артысты чыталі вершы, танчылі, спявалі, паказвалі сцэнкі.

Гучалі руская, беларуская, турэцкая мовы. У прысутных бабуль і дзядуль свяціліся вочы радасцю.

Называўся канцэрт “Бывай, лета!”. У ім удзельнічалі **Ліза** і **Ваня Паўлюкевічы**, **Ілля Траццякоў** і **Соф’я Траццяк**, **Ульяна** і **Арсеній Камко**, **Стася Радаванавіч**.

**Мікола КУТАС,**
**жыхар Ільі.**


Фота ok.ru

Эрэн і Ачэлія ў Беларусі.

ВІЛЕЙКА


Фота sfh.ru

# Ганулька

Ілюстрацыйнае фота.

**У маёй невялікай роднай вёсачцы на Случчыне яе называлі Ганулькай. А мянушка такая прыляпілася да бабы Ганны з-за яе малога росту і худзенькага, як у дзяўчынкі, складу.**

Ганулька сама была сіратою. Ды і замуж выйшла за такога ж беднага хлопца, як сама.

Хату згарусцілі маленькую наводшыбе сяла. Затое дзетак яны пакляпалі ажно шасцёра. Можа, іх было б і больш, ды забралі Рыгора на вайну, з якой ён вярнуўся паранены на адной назе. Хварэў доўга і памёр.

Пагаравала Ганулька, паплакала, але рукі не апусціла. Як магла змагалася, гадавала дзетак, вучыла іх дабрыні, спагадзе.

Дапамагала і людзям: каму парадай, каму словам, каму прыкладам. Яе паважалі за добры характар, цёплыя адносіны да людзей. Дзе толькі сілы знаходзіліся ў такой малой, танклявай жанчыне.

Аднойчы прыслалі ў нашу вясковую школу двух настаўнікаў: мужа і жонку. Было ў іх чацвёра дзяцей. Ніхто з вяскоўцаў не хацеў браць на кватэру шэсць чалавек: каму такая арава патрэбная. А Ганулька ўзяла іх у сваю шпакоўню. Казалі суседкі, што там рабілася. Гэта ж не жартачкі – дзесяць дзяцей.

А жыццё ішло. Гадаваліся дзеці. А з імі і клопаты. Малодшага сына Ганулькі дзеці дражнілі Фрыцам. А хлопчык не ведаў чаму. Ён нерваваўся, кідаўся ў бойку з крыўдзіцелямі.

А сакрэт выдала кума, якой Ганулька аднойчы расказала пра сваю таямніцу. Як кажуць, кума куме, а тая – на ўсё сяло. І ўжо ўсе даведаліся, адкуль узяўся гэты высокі рудавалосы сынок яе. А калі дайшла праўда да хлопчыка, дапытваўся ў маці, адкуль ён узяўся.

А праўда была такая. У час вайны ў іх хаціну ўварваўся нямецкі салдат. На вачах у дзяцей ён згвалціў гэтую малую, як дзіцёнка, жанчыну. Калі даведалася, што цяжарная, плакала, валасы на сабе рвала.

**А каб пазбавіцца ад дзіцяці, розныя зёлкі піла, падымала цяжкія рэчы. А яно хоць бы што. Прычапілася і нарадзілася.**

Пачуўшы ад маці праўду, хлопчык пачаў спакойна адносіцца да крыўдзіцеляў. Больш цярпліва насеў на вучобу, школу скончыў амаль на выдатна. А пасля ўніверсітэта стаў дырэктарам школы.

Былога дырэктара, які некалі жыў у Ганульчынай хаце, перавялі ў Мінск. Калі яго дзеці спраўлялі вяселлі, то заўсёды клікалі Ганульку. Аднак яна ў сталіцу не ездзіла, саромелася. Думала, там такія адукаваныя і прыгожыя людзі. А што яна?

Усе дзеці Ганулькі вывучыліся, займелі свае сем’і і жыллё. Кожны, асабліва на зіму, клікаў матулю да сябе. Але яна рэдка ездзіла да дзяцей надоўга. Любіла, калі летам яны ўсе збіраліся ў яе хаце. Было шумна і весела. А яна ціха сядзела на ўслончыку і глядзела на гэтую араву. Радавалася ды сцірала хусцінкай няпрошаную слязу.

Ёй думалася, што дзеці яшчэ малыя, што ім патрэбны догляд і дапамога. Прыгадвала Рыгора. Шкадавала, што не дажыў да таго часу, каб змаглі яны разам палюбавацца на сваіх птушанят.

Дзеці з сем’ямі ў хаце не змяшчаліся і ладзілі застолле ў садзе. Унукі ўсё дапытваліся ў бабулі, як яна з вялікай сям’ёю некалі магла жыць у такой маленькай хаце. У адказ яна толькі ўсміхалася, думала пра сваё і маўчала.

Ганулька была шчаслівай.

**Галіна БУРКЕВІЧ,**
**жыхарка Ільі.**

# Быў час, быў дзень, была эпоха...

**Знаёмім чытача з выбранымі фрагментамі ўспамінаў гісторыка Міхаіла Філістовіча, які доўгі час працаваў на Вілейшчыне і Маладзечаншчыне.**
*** Чаму ў літоўскіх крамах былі кілбасы, а ў нашых днём з агнём не знойдзеш.**
*** Як беларускія партыйцы перапець Краўчукову каманду не здолелі.**




Фота Ігара МАРОЗА.

Гэта крама ў цэнтры Маладзечна шмат гадоў насіла назву “Елгава”. І па сёння большасць маладзечанцаў заве яе па імені колішняга горада-пабраціма ў Латвіі.

## Прыбалты

По распісанаму у “вярхах” напачатку 70-х гадоў сцэнарыю сацыялістычнага спаборніцтва паміж гарадамі-напарнікамі Маладзечна вызначылі: Барысаў у Мінскай, Ліда ў Гродзенскай абласцях, Панявежыс у Літве, Елгава ў Латвіі, Пярну у Эстоніі.

Эстонцы выклік на спаборніцтва праігнаравалі адразу, а вось з літоўцамі і латышамі склаліся вельмі добрыя сяброўскія адносіны. Штогод абменьваліся дэлегацыямі, творчымі калектывамі, прымалі ўдзел у святах. З правядзеннем апошніх была ў іх невялікія “хітрыкі”: прысвечаныя палітычным датам спалучалі з традыцыйнымі народнымі гуляннямі. Была большая гарантыя, што збяруць людзей.

Так, святкаванне 40-годдзя савецкай улады ў Латвіі, у якім я прымаў удзел, у Елгаве прымеркавалі на “Лігу” (аналаг нашаму Купаллю) у лесе каля вялікага вогнішча ў нацыянальных касцюмах. Нязвычна было для нас бачыць, як першы сакратар гаркама партыі падхапіў маладую дзяўчыну і пайшоў круціць з ёй народны танец. Нашы “шышкі” заўсёды трымалі дыстанцыю. З такім жа сустракаўся ў чарговую гадавіну вызвалення Літвы на Тройцу у Швянчонісе (былых нашых Свінцянах; адначасова для мясцовага беларускага насельніцтва там была Сёмуха).

У Панявежысе пабываў у драматычным тэатры, дзе працаваў **Данатас Баніёніс**. Сустракаўся з ім і ў Маладзечне. Быў прыемна здзіўлены сінхронным перакладам спектакля з літоўскай на рускую мову. Даведаўся, што Панявежыс – самы нацыянальны горад, там 90 працэнтаў жыхароў былі літоўцы, а кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый – толькі літоўцы(!).

У 1975 годзе, калі з нашых прылаўкаў зніклі мясапрадукты, беларусы кінуліся ў Літву, дзе ўсё было. Прадаўцы празвалі маіх землякоў “машэраўцы” і сталі адпраўляць дамоў.

Тады ж да мяне нечакана завітаў сакратар Нова-Вільняскага райкама Кампартыі Літвы. З гэтым раёнам літоўскай сталіцы ў нас таксама былі добрыя адносіны, іх завязаў у час кіраўніцтва горадам Генадзь Георгіевіч Барташэвіч. Я спытаў у літоўскага калегі: “Скажы, чаму у вашых магазінах ёсць каўбасы, іншыя мясапрадукты, а ў нас няма?” У адказ пачуў нечаканае: “ Мы жывем па адных законах, толькі вы не выконваеце іх, а мы выконваем. Ёсць саюзная пастанова дапамагаць асабістым гаспадаркам. Вы пагаварылі і паклалі пад сукно. А мы рэальна дапамагаем і маем адпаведную аддачу ад падвор’я. І яшчэ. Навукова абгрунтаваная норма спажывання мяса на душу насельніцтва 72 кілаграмы на год. Мы пакідаем у рэспубліцы столькі мяса, каб забяспечыць гэту норму, а астатняе аддаём у саюзны фонд. У сярэднім па СССР на душу насельніцтва прыходзіцца 54 кілаграмы мяса на чалавека. Вам пакідаюць 54 кілаграмы на жыхара, а звыш – забіраюць у Саюз.”

А памятаеце яшчэ наш спрыт перавыконваць планы?!

Калі ў эканамічным плане саюзнае кіраўніцтва ўлічвала спецыфіку прыбалтыйскіх рэспублік і загладжвала такім чынам тое, што не ўсё было чыста з іх далучэннем да СССР у 1940 годзе, то крамлёўскія ідэолагі хацелі прычасаць усіх пад адзін грэбень. Запомнілася размова ў адзін з прыездаў у Елгаву з прыемнай жанчынай сакратаром гаркама па ідэалогіі. Па ўсім Саюзе тады праводзілі канферэнцыі па вядомай трылогіі Л.І.Брэжнева. Трэба было рабіць гэта і ў Латвіі. Вось яна мне і кажа: ”Няўжо ў вярхах не разумеюць, што нам нельга такое навязваць. У нас і так да Масквы адносіны не зусім лаяльныя, а тут яшчэ гэтым злаваць людзей?” Як тут не пагодзішся?

Пасля жнівеньскага “путчу” 1991 года праводзіў з партыйнага санаторыя ў Сочы дамоў сакратара Рыжскага гаркама. Стала ўжо вядома пра часовую забарону Вярхоўным Саветам дзейнасці Кампартыі Беларусі. Пры пасадцы ў аўтобус да аэрапорта давялося выслухаць: “Што ў вас у Беларусі за камуністы? Мы ў падполлі, але працягваем змагацца, а вашы маюць большасць у парламенце і галасуюць за забарону сваёй партыі?” Прыйшлося праглынуць горкую пілюльку. Перад маім адбыццём на адпачынак камуністычная партыйная група ў беларускім парламенце, сам быў яе кансультантам, налічвала 202 дэпутаты. Дастаткова было нейкіх 165 галасоў, каб забалаціраваць любое неадпаведнае рашэнне!

## У Львове

У чэрвені 1985 года ў Львове адбыўся саюзны семінар ідэалагічных работнікаў па контрпрапагандзе. Задачу ўзмацнення гэтага напрамку паставіў яшчэ ў 1983 годзе **Юрый Андропаў**. Яго ўжо не стала, але па інерцыі нешта па яе выкананню праводзілася.

Дарэчы, незадоўга да яго смерці, у Маскве падчас маёй перападрыхтоўкі ў Акадэміі грамадскіх навук, перад кіраўнікамі лектарскіх груп ЦК саюзных рэспублік, крайкамаў і абкамаў партыі з усяго СССР выступіў наш зямляк, сакратар ЦК КПСС па ідэалогіі **Міхаіл Васілевіч Зімянін**. Яму з пэўнай заклапочанасцю было зададзена пытанне аб стане здароўя Юрыя Уладзіміравіча. Адказ, мякка скажам, здзівіў: “Нічога небяспечнага, невялікая прастуда”(?!)

Але вернемся ў галоўны горад Заходняй Украіны. Мяркую, што выбар месца правядзення семінара не быў выпадковым. Не кажучы пра ваенны час, але і пасля гэты рэгіён быў няпростым. Украінскую дэлегацыю ў складзе сакратароў абкамаў па ідэалогіі ўзначальваў галоўны тады камуністычны ідэолаг ЦК КПУ **Леанід Краўчук.** Амаль у кожным часопісе ЦК КПСС “Агітатар” друкаваліся яго артыкулы па тэорыіі і метадах масава-палітычнай работы і досведзе Украіны ў яе правядзенні.

Чаканым быў даклад першага сакратара Львоўскага абкама Кампартыі Украіны з 1973 года **Віктара Фёдаравіча Дабрыкі**. Пасля таго, як ён распавёў нам пра поспехі рэгіёна ў камуністычным будаўніцтве, кіраўнік вобласці прызнаўся, што працаваць тут складана, яшчэ жывуць у частцы насельніцтва нацыяналістычныя і антысавецкія настроі, непрыязныя адносіны да “маскалёў”. Былі нават замахі на яго жыццё. “Але пакуль я тут, – упэўнена сцвердзіў ён, – нацыяналізм не пройдзе!”.

І я паверыў, што пакуль у Львове такі рашучы і мужны кіраўнік, не пройдзе. У Крамлі думалі інакш. З пачаткам “перабудовы” менавіта Дабрыка адзін з першых стаў аб’ектам крытыкі на старонках усемагутнай тады “Праўды”. А гэта азначала, што хутка здымуць з пасады. Так і здарылася.

Тады звонку было ўсё ціха і добразычліва. Быў банкет у прыгарадным заможным саўгасе. За доўгім, багата ўстаўленым ядой і пітвом сталом насупраць мяне сядзелі Краўчук і яго 25 “апрычнікаў” – сакратароў абкамаў партыі, і ўсе каларытныя мужыкі. Тамадой быў, як і здагадаліся, адэсіт. Калі дайшлі да стану, што без спеваў далей немагчыма, трэба было пачуць, якія гэта пявуны, якія моцныя ў іх галасы! Наша дэлегацыя з сямі чалавек, з іх тры жанчыны – сакратары Брэсцкага, Гродзенскага і Магілеўскага абкамаў партыі, спрабавала ўцiснуцца са сваім Ясем, які касіў канюшыну, ды дзе там! Нічога не выйшла.

Пад занавесь семінара крыху пакрыўдзілі “апякаўшага” нас сакратара Львоўскага гаркама партыі. Украінцы – народ службісты, калі загадалі, павінен выканаць спаўна. Вось і яму было даручана забяспечыць для нас культурную праграму. Ён прапануе нам і туды, і сюды, а мы ў адказ, што трэба на вакзал, хутка цягнік на Мінск. У роспачы сакратар сказаў, што калі трэба, так і цягнік на Мінск затрымаем.

Такая ўжо наша беларуская сціпласць. Едзем у Маскву на нараду, дык з вагона адразу у зал пасяджання; скончылася – у той жа дзень вечарам дамоў. Калегі з каўказскіх рэспублік не такія: яны прыязджаюць за тыдзень і з ад’ездам ніколі не спяшаюцца.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандытат гістарычных навук.**

**Чытайце ў працягу:**
*** Адкуль былі грошы ў камуністычнай наменклатуры з поўдня СССР каб шыкаваць на курортах.**
*** Першыя месяцы пасля Чарнобыля. Самасёлы і марадзёры. Ад чаго душа балела?**

**Пра аўтара. Міхаіл Філістовіч**, кандытат гістарычных навук. Нарадзіўся ў 1940 годзе у в. Рэдзькавічы на Вілейшчыне. У 1963-1982 гг. працаваў у адукацыі і парторганах Вілейшчыны, Маладзечнашчыны. У 1989-1991 гг. – інструктар, загадчык сектара ЦК КПБ. З 1995 г. – у вышэйшых кантрольных органах Беларусі. Жыве ў Мінску.

### КАЛЯНДАР

2 ВЕРАСНЯ
**У 490 годзе** да нашай эры пасля бітвы пры Марафоне Фэйдзіпід бегам пераадолеў 26 кіламетраў да Афін, каб паведаміць аб перамозе. Перамога грэкаў спыніла персідскае ўварванне ў Еўропу. З-за адноснай малалікасці грэкаў і іх атакі толькі пяхотай, персы першапачаткова прынялі іх за групу вар’ятаў ці самагубцаў.

3 ВЕРАСНЯ
**У 1864 годзе** ў лабараторыі Альфрэда Нобеля адбыўся выбух з-за яго вопыту з нітрагліцэрынам. Сярод шасці загінулых быў малодшы брат навукоўцы. Праз тры гады Нобель атрымаў патэнт на дынаміт.

4 ВЕРАСНЯ
**У 1975 годзе** выйшаў першы выпуск перадачы “Што? Дзе? Калі?”.

5 ВЕРАСНЯ
**У 1901 годзе** нарадзіўся празаік, драматург і літаратуразнаўца Віталь Вольскі. Ён даследаваў літаратуру беларускіх татараў – кітабы. Аўтар п’ес “Несцерка”, “Машэка”.
**У 1918 годзе** Саўнаркам выдаў дэкрэт аб пачатку чырвонага тэрору. Гэта комплекс карных мераў, які праводзілі супраць сацыяльных груп, названых класавымі ворагамі, і супраць контррэвалюцыяністаў.

6 ВЕРАСНЯ
**У 1933 годзе** на савецка-польскай мяжы адбыўся абмен вязнямі ў Коласава. Драматурга і публіцыста Францішка Аляхновіча абмянялі на мовазнаўцу і палітыка Браніслава Тарашкевіча. Аляхновіч у 1918 годзе з Вільні накіраваўся ў Мінск. Пераапрануўшыся фурманам, перабраўся праз лінію старога фронту каля Маладзечна. У Мінску арганізаваў тэатральную трупу, кіраваў Мінскім гарадскім тэатрам. Пасля пераехаў у Вільню. Але ў 20-х зацікавілі поспехі савецкай Беларусі ў культуры. У 1926 вярнуўся ў Мінск. І праз год яго арыштавалі, абвінаваціўшы ў шпіянажы. Пісьменнік атрымаў 10 год катаргі. Перажытае там апісаў у аповесці “У кіпцюрох ГПУ”. Браніслаў Тарашкевіч – адзін з лідараў Беларускай сацыялістычнай грамады. У Польшчы быў камуністычным палітыкам. У 1931 яго арыштавалі польскія ўлады. У 1933 Савецкая ўлада абмяняла Аляхновіча на Тарашкевіча. Сустрэўшыся на памежным мастку, яны прыўзнялі капелюшы. У 1937 Тарашкевіча прыгаварылі да расстрэлу, у 1957 рэабілітавалі. У 1944 невядомы пазваніў у дзверы кватэры Аляхновіча ў Літве і двойчы ў яго стрэліў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Ігарам ГУБЧЫКАМ.

# Жыццё без зімы, жвачак і паходаў у госці

## Як пераехаць з Астраўца ў Сінгапур і стаць сваім?

**„Сябры! Трэба тэрмінова знайсці ў Мінску тры пары лапцяў. Сваяк з Сінгапура (родам з Астраўца) хоча набыць сабе і для двух тамашніх калег-праграмістаў – філіпінца і індуса".**

Такая абвестка ў сацсетцы не магла не прыцягнуць маю ўвагу. З лапцямі дапамога ўжо не спатрэбілася – майстры ўсё ж знайшліся. Але сустрэча з героем абвесткі ўсё ж адбылася. Астраўчанін **Ігар Губчык** і яго жонка **Ксенія** з Баранавіч спецыяльна для "РГ" распавялі пра сваё сінгапурскае жыццё.

### "Як можна не ведаць пра Беларусь?"

**– Як у вас з'явілася ідэя з лапцямі?**

**Ігар:** Мы ўжо прывозілі з Беларусі гадзіннікі і цукеркі. І гэтым разам падумалі, што б такое прывезці, каб такое беларускае-беларускае? У галаву прыйшлі лапці. Я паказаў іх на фота сваім калегам і яны сказалі: давай, прывозь! Для сінгапурскага клімату самае тое ў лапцях на працы хадзіць.

**– Давайце пачнём ад пачатку: як вас занесла на іншы канец свету?**

**Ігар:** Я пераехаў у Сінгапур у красавіку 2012 года, Ксюша – праз тры месяцы.

Я быў аспірантам БДУІР і мая навуковая праца была звязаная з апрацоўкай выяваў. Аднойчы мне патэлефанаваў мой навуковы кіраўнік і запытаўся: хочаш працаваць у Сінгапуры? На што я адказаў: а чаму б і не? Хаця нават не ведаў, дзе гэта. Аказалася, што мой кіраўнік – добры знаёмы дырэктара сінгапурскай фірмы, які па нацыянальнасці рускі.

Я даслаў рэзюмэ, пераклады дакументаў, паразмаўляў па скайпе з будучым начальнікам. І праз два месяцы атрымаў паведамленне: прыязджайце, мы адкрылі вам працоўную візу.

**Ксюша:** Мы з Ігарам на той момант былі разам чатыры гады і з іх толькі два дні правялі паасобку. Мы нават працавалі разам у адным універсітэце. Таму спачатку навіне пра Сінгапур я не ўсцешылася: новая краіна, невядома дзе, навошта туды ехаць? Было страшна.

**– Ці былі праблемы з мовамі?**

**Ігар:** Я валодаў англійскай на сярэднім узроўні. Працаваў выкладчыкам ва ўніверсітэце, дзе ў мяне былі групы замежных студэнтаў, таму якая-ніякая практыка была.

У Сінгапуры чатыры дзяржаўныя мовы: англійская, кітайскі дыялект мандарын, малайская і хіндзі. Так што з англійскай там не прападзеш.

**Ксенія:** Мне было цяжка з мовамі. Спачатку я працавала ў рускім рэстаране памочнікам повара. Валоданне англійскай было не такім прынцыповым крытэрыям, а крышыць салаты і чысціць бульбу я ўмею. Пасля перайшла на поўны працоўны час – 55 гадзін на тыдзень. З мужам амаль не бачыліся. У такім тэмпе вытрымала паўгода і звольнілася.

Адвучылася на курсах англійскай мовы, пасля чаго тры месяцы шукала працу і ўладкавалася па спецыяльнасці на праграміста.

**– Як выглядае дарога да Сінгапура?**

– Спачатку едзеш цягніком да Масквы, адтуль ёсць прамы рэйс. Ён дарагі, таму часцей мы ляцім з перасадкамі. Адзінаццаць тысяч кіламетраў пралятаеш за дзесяць гадзін. Розніца ў часе з Беларуссю – пяць гадзін.

Там ніхто не ведае, што такое Беларусь, таму мы ўсім расказваем. Як, вы не ведаеце пра Беларусь? Яна ж па памеры як Малайзія! Такая вялікая краіна, а вы не чулі?!

### Рыс, рыс і яшчэ раз рыс

**Ігар:** У Сінгапуры 90% пакояў здаецца без права карыстання кухняй. То бок ты маеш пакой, ванную, а паесці ходзіш у шматлікія вулічныя забягалаўкі і сталоўкі. Там прадаюць у асноўным рыс, на якім непрывычаены чалавек доўга не працягне. Прычым накладаюць гару рысу, малюсенькі кавалачак курыцы і прастую лустачку агурка. Я заўсёды прашу наадварот – рысу ў два разы меней, а курыцы і гароднiны – паболей.

Мы наймалі кватэру з кухняй і знаёмыя вельмі здзіўляліся: як гэта – гатаваць ежу? Дарэчы, паходы ў госці там таксама дзіва, людзі большыя індывідуалісты. Сябры сустракаюцца на нейтральнай тэрыторыі. Таму сяброў знайсці складана. Калі мы запрашаем да сябе, усе вельмі здзіўляюцца: як, прама дамоў?! Але прыходзяць.

Аднойчы частавалі гасцей дранікамі. Яны былі ў захапленні – як гэта робіце? Пасля таго, як мы паказалі, яны сказалі – ой не, мы гэтым займацца не будзем, надта складана!

Затое ў іх ёсць традыцыя сямейнай вячэры ў нядзелю. У нашым спальным раёне ў нядзелю пустыя вуліцы – усе бавяць час з сем'ямі.

**Ксюша:** – Я навучылася гатаваць там нашы стравы – бульбу, салаты, курыцу. Мы проста не можам есці рыс тры разы на дзень! А ў іх калі забраць рыс – гэта будзе каравул! Як у нас бульбу.

Ёсць яшчэ садавіна дуран – такая зялёная і шыпастая. На выгляд нічога, але, калі разрэзаць, – страшэнна смярдзіць памыйкай, на ўсю ваколіцу, горш не бывае, есці гэта немагчыма! А мясцовыя нічога, ядуць і хваляць.

Да таго ж там амаль няма салодкага, таму беларускія шакаладкі і зефір вельмі хутка разыходзяцца. Яшчэ адзенне купляем толькі ў Беларусі – там яно вельмі дарагое, бо ўсё імпартнае.

### Забарона на жвачкі і малпы на вуліцах

**Ігар і Ксенія:** У краіне шмат забаронаў і высокія штрафы за іх парушэнне. Нельга есці па-за пунктамі харчавання, каб не брудзіць на вуліцы. Жвачкі там не купіш, а правезці праз мяжу можна толькі адну ўпакоўку. Калі вязеш болей – гэта кантрабанда. Усё для таго, каб пасля не адкалупваць засохлыя жвачкі ад асфальту і з-пад крэслаў.

Законы вельмі суровыя. За крадзеж адразу саджаюць. Але ў выніку ўзровень злачыннасці там адзін з самых нізкіх на планеце.

Вельмі жорстка караюцца праявы расізму: проста высылаюць з краіны без права вяртання нават як турысту. Калі ў доме на паверсе тры кватэры і ў двух з іх жывуць кітайскія сем'і, то трэцюю не прададуць кітайцам – толькі малазійцам, японцам ці індусам. Каб не стваралiся кланы.

Увогуле няма ДАІ. У шашу ўмантаваныя датчыкі руху, якія перадаюць інфармацыю ў святлафоры: колькі машын, у якім кірунку едуць, і святлафоры аўтаматычна падстройваюцца пад гэта. І паўсюль камеры.

Машын у Сінгапуры нашмат менш, чым у Беларусі, – краіна маленькая, таму зямля на вагу золата. Каб мець сваю машыну, трэба плаціць неверагодна высокія падаткі. Напрыклад, купляючы новае аўто ты плаціш не толькі прадаўцу, але і каля 70 тысяч долараў падатку за права карыстання зямлёй. І пасля штогод яшчэ нейкую суму. Затое сістэма грамадскага транспарту выдатная.

Складана прызвычаіцца да таго, што круглы год і ноч, і дзень доўжацца па 12 гадзін. А сёмай раніцы ўстае сонца, а сёмай вечара – садзіцца, прычым цямнее рэзка, літаральна цягам 15 хвілін.

Круглы год там тэмпература каля +30 і амаль стопрацэнтная вільготнасць. Прывыкнуць цяжка. Кандыцыянерам стараемся нячаста карыстацца, тады лёгка захварэць. Дома толькі на ноч уключаем.

Няма цэнтралізаванай падачы гарачай вады. Толькі калі саму ставіць бойлер. А па вуліцах бегаюць малпачкі і ігуаны, як у нас каты. Карміць іх строга забаронена.

Дарэчы, па вуліцах бегае шмат тараканаў – вялікіх, тлустых. Сінгапур вельмі чыстая краіна, а тараканы там звычайныя насякомыя, якія проста жывуць у прыродзе, як у нас хрушчы.

### Астравец вельмі змяніўся за апошнія гады

**Ігар:** Я скончыў школу №1 у Астраўцы, нават срэбраны медаль атрымаў! Бабуля жыла ў вёсцы Каменка, але цяпер дома не засталося. Агароды былі вялікія, я нават замест каня з плугом хадзіў! Цяпер кантактую толькі з бацькамі і сястрой, якая там жыве.

У Астраўцы я не быў ужо даўно – з сям'ёй сустракаюся ў Мінску. Цяпер не маю пропуска ў памежную зону, і мясцовай прапіскі таксама. З таго, што бацька паказваў праз камеру, бачыў, што пасля пачатку будоўлі АЭС горад моцна памяняўся.

Калі я з'язджаў, самы высокі будынак налічваў пяць паверхаў. Я нават калі ў Мінск пасля Астраўца прыехаў, для мяне высокія дамы дзівам былі. Цяпер ёсць шматпавярхоўкі, новыя дарогі, нават два святлафоры паставілі! Прыязджаюць новыя людзі, горад развіваецца. Раней усе адтуль з'язджалі, а цяпер мінчане да нас едуць на працу.

Да АЭС стаўлюся неадназначна. Астравец быў адной з самых чыстых тэрыторый Беларусі. Цяпер церпіць прырода – ужо праклалі новыя дарогі, чыгунку. Рака мялчэе. З аднаго боку станцыя дасць энергетычную незалежнасць Беларусі, з другога – энергію можна атрымліваць і ад ветру, сонца ці вады.

Бацькі жывуць у Астраўцы і пакуль не былі ў нас у Сінгапуры, але спадзяюся, што атрымаецца іх выцягнуць у госці.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Рамонт у кухні: не толькі прыгожа, але і экалагічна

**Дабраўшыся да пераробкі кватэры ці дома, мы часта клюем на фразы тыпу “паводле апошняй моды” ці “найноўшыя тэхналогіі”. А ці не нашкодзяць гэтыя тэхналогіі здароўю блізкіх? Тым больш у кухні – месцы, дзе сям’я найчасцей збіраецца разам.**



У дружалюбнай для здароўя кухні і сямейныя абеды будуць больш карысныя.

На гэтае пытанне карэспандэнту “РГ” адказвае **Дар’я Чумакова**, каардынатар праграмы па экалагічна сяброўскім ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск).

### Падлога: аддаем перавагу плітцы

Сучасны чалавек да 90% часу праводзіць у памяшканнях. І калі змяніць працоўны інтэр’ер на больш спрыяльны для здароўя мы не заўсёды можам, то дома маем магчымасць “разгуляцца”.

Любая кватэра пачынаецца з падлогі. Для кухні яна асабліва важная, бо павінна быць не толькі прыгожай, але і зручнай для частага мыцця.

– Выбіраючы матэрыял, мы часта звяртаем увагу на цану і практычнасць, – кажа Дар’я Чумакова. – А вось пра хімічную бяспеку забываемся. А гэта вельмі важна, паколькі падлога застаецца з намі нашмат даўжэй, чым шпалеры ці столь, якія прасцей памяняць.

Спецыялісты раяць адмовіцца ад ламінату з ПВХ і лінолеуму: яны могуць мець у складзе фталаты – рэчывы, шкодныя для эндакрыннай і рэпрадуктыўнай сістэм.

На кухні тэмпература паветра часта больш высокая, таму шкодныя рэчывы пад яе ўздзеяннем прасцей трапляюць у паветра.

– Варта аддаваць перавагу керамічнай плітцы, – гаворыць эксперт. – Альбо выбіраць лінолеум на аснове натуральных кампанентаў – льна ці джутавага валакна. Больш бяспечна для здароўя таксама класці паркет ці іншае пакрыццё з цэльнай драўніны ці корка.

### Шпалеры: старая добрая папера

Ад сучаснага выбару шпалераў вочы проста разбягаюцца. Так і хочацца выбраць рэльефныя ды яшчэ такія, што можна мыць! Аднак вінілавыя хаваюць у сабе вялікую небяспеку. Яны – крыніца тых жа фталатаў.

**Калі ў кухні адмовіцца ад практычных вінілавых шпалераў цяжка, то прынамсці ў дзіцячых пакоях спецыялісты настойліва раяць клеіць звычайныя папяровыя. Дзіцячая эндакрынная сістэма асабліва лёгка паддаецца ўплыву хімічных рэчываў.**

Калі ж у кухні без вінілавых шпалераў ніяк, варта звярнуць пільную ўвагу на краіну-вытворцу і адмысловую маркіроўку, што нанесеная на скруткі. Таксама не лішнім будзе панюхаць іх перад пакупкай – моцныя хімічны пах падказваюць, што шпалеры могуць быць шкоднымі для здароўя.

### Фарбы: уважліва чытаем інструкцыю

Спецыялісты не рэкамендуюць фарбаваць па прынцыпе “на дачы засталася фарба, шкада выкідаць – то і дома падфарбую што-небудзь”. Кожны від фарбы мае свае рэкамендацыі. Іх невыкананне можа адбіцца на здароўі вашых дамашніх.

Па-першае, не варта карыстацца ў памяшканні фарбамі з пазнакай “толькі для вонкавых работ”. Канцэнтрацыя таксічных рэчываў у іх нашмат вышэйшая, і калі на вуліцы яны хутка разнясуцца ветрам, то ў памяшканні давядзецца яшчэ доўга ўдыхаць хімічны пах.

Пры магчымасці лепей выбіраць фарбы з пазнакай “падыходзіць для дзіцячага пакою” – такая катэгорыя мае найменш таксічных рэчываў.

Па-другое, абавязкова прытрымлівайцеся тэхналогіі фарбавання, якая пададзена ў інструкцыі. Нявarта фарбаваць кухонную батарэю ў разгар ацяпляльнага сезона – пад уздзеяннем тэмпературы ўся “хімія” адразу ж апынецца ў паветры.

Таксама вытрымлівайце рэкамендаваны час паміж нанясеннем слаёў фарбы. Калі на першы слой раней чым трэба нанесці другі, то хімічныя рэчывы з першага “запячатанага” яшчэ нашмат даўжэй будуць выходзіць вонкі і псаваць паветра.

**Па-трэцяе, не грэбуйце пальчаткамі і рэспіратарамі падчас працы з фарбай.**

Неабходнасць гэтых рэчаў – не рэкламны ход, а рэальны клопат пра ваша здароўе.

### Мэбля і тэкстыль: мыем і даем выветрыцца

Новы набор кухоннай мэблі – мара ледзь не кожнай гаспадыні. Пры яе выбары эколагі рэкамендуюць звяртаць увагу не толькі на дызайн і зручнасць, але і на матэрыял.

– Асабліва шкоднай з’яўляецца мэбля з ДСП, – кажа Дар’я Чумакова. – Яна можа выдзяляць такія шкодныя рэчывы, як фенол і фармальдэгід. Але якую б мэблю вы не выбралі, дазвольце ёй некаторыя час пастаяць у памяшканні з добрай вентыляцыяй.

Пах “новай мэблі”, які некаторыя вельмі любяць, часта хавае ў сабе шкодныя таксічныя рэчывы. Бяспечней будзе пачаць карыстацца новай кухняй, калі пах “навізны” ўжо знікне.

Тэкстыль, які выкарыстоўваецца для аздаблення, таксама можа быць небяспечным. Так, новыя тканіны (шторы, накідкі) спецыялісты рэкамендуюць вымыць некалькі разоў перад першым выкарыстаннем.

### Не забываемся дбаць пра паветра!

Кухня – спецыфічны пакой у кватэры, бо мае свой мікраклімат. Яна забруджваецца часцей за іншыя пакоі, адпаведна і мыецца часцей з выкарыстаннем розных хімічных сродкаў. Да таго ж тэмпература там часта больш высокая.

– Недастатковая вентыляцыя – сур’ёзная прычына, па якой у пакоі адзначаецца высокая канцэнтрацыя забруджвальных рэчываў, – зазначае эксперт. – А гэта ў сваю чаргу адбіваецца на здароўі.

Праветрыванне праз адкрытыя фортку ў такім выпадку мала эфектыўнае.

Спецыялісты раяць некалькі разоў на дзень праводзіць праветрыванне скразняком, адчыніўшы ўсе створкі акна, а таксама вокны і дзверы ў супрацьлеглых канцах кватэры.

Асабліва важная такая працэдура для кухні, для часта павышаная вільготнасць.

Пры звычайным праветрыванні паветра ў памяшканні цалкам адновіцца за дзве гадзіны, пры скразным – за дзесяць хвілін.

**Вільготная ўборка – важны момант для падтрымання кухні ў экалагічна бяспечным стане.**

Пра тое, якімі сродкамі чысціні бяспечна карыстацца ў кухні, чытайце ў адным з наступных нумароў “РГ”.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

НАВІНЫ

## “Смаргонь” ідзе шостай

СМАРГОНЬ

У 16-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе 28 жніўня гуляла у гасцях са сталічнай камандай “Тарпеда”. Лёс матчу вырашыў адзін гол: на 61-й хвіліне яго забіў у вароты гаспадароў **Аляксей Тараканаў**.

– Важная перамога. У матчы першага круга мы прайгралі “Тарпедзе”. Было жаданне ўзяць рэванш, – расказаў прэсаташэ “Смаргоні” **Уладзімір Амбрасевіч**. – Стварылі дастаткова момантаў, але рэалізавалі толькі адзін. Зладжана згуляла абарона і галкіпер – не дазволілі сапернiку забіць у вароты.

Турам раней “Смаргонь” прымала ФК “Смалявічы-СТГ” . Смаргонцы выйшлі наперад ужо на 12-й хвіліне. Гол забіў **Аляксандр Клешчанок**, які ў мінулым туры адзначыўся хет-трыкам.

Матч так і завяршыўся з лікам 1:0 на карысць смаргонцаў. “Смаргонь” зараз займае шостае месца.

## “Ашмяны” зноў прайграюць

АШМЯНЫ

Па-ранейшаму ніяк ФК “Ашмяны” не могуць дабавіць ачкоў да набраных чатырох.

Дома 27 жніўня яны саступілі “Зорцы-БДУ” 1:3. А 20 жніўня гулялі ў гасцях са “Слонімам”. Прайгралі з лікам 0:4.

Каманда з такім ачковым багажом трывала замацавалася на апошнім месцы ў першай лізе.

Тым часам склад каманды папоўніўся гульцом дубля мінскага “Дынама” . Нападаючы **Канстанцін Шавялёў** адпраўлены ў арэнду ў футбольны клуб “Ашмяны”. Ад пачатку сезона ён правёў 15 гульняў, у якіх зарабіў пяць бамбардзірскіх балаў (3+2).

## Віляйчане разгромна прайграюць

ВІЛЕЙКА

“Вілія” з Вілейкі 28 жніўня ў матчы чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе гулялі ў гасцях са “СМІаўтатрансам” са Смалявіцкага раёна.

І зноў на выездзе віляйчане прайгралі. На гэты раз, з лікам 0:5. Прычым, у першым тайме прапусцілі толькі адзін гол, астатнія чатыры – у другім.

А раней, 21 жніўня, віляйчане прымалі “Старыя Дарогі” і прайгралі 1:2. Адзіны гол у вілейскай каманды забіў **Арцём Ермакоў**.

“Вілія” ўжо на дзясятым месцы з 12 камандаў.

## Сярод лепшых выратавальнікаў — мядзяльчане і віляйчане

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

У Мядзеле 19 жніўня адбыліся абласныя спаборніцтвы выратавальнікаў на вадзе. Вызначыліся на іх прадстаўнікі Мядзельскага і Вілейскага раёнаў.

Сярод каманд дружыннікаў-выратавальнікаў каманда Вілейскай раённай арганізацыі заняла другое месца. У асабістым заліку другое месца узяў яе прадстаўнік **Валеры Варановіч**.

У камандным заліку сярод штатных работнікаў на трэцім месцы прадстаўнікі Вілейскай выратавальнай станцыі, на другім – станцыі “Мядзел”. Перамога за камандай станцыі “Зубраня” з Мядзельскага раёна.

У спаборніцтвах па выхаду катэра па трывозе трэцяе месца на рахунку прадстаўнікоў выратавальнай станцыі “Мядзел”, другое заняла станцыя “Зубраня”.

Сярод штатных работнікаў выратавальнай службы ў асабістым заліку трэцяе месца ў **Івана Сідаровіча** з выратавальнай станцыі “Мядзел”. Перамог жа начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда.**

## Мядзельскія футбалісты — другія

МЯДЗЕЛ

Зборная Мядзельскага раёна стала другой у фінале абласных спаборніцтваў “Каласок” па футболе сярод сельскіх жыхароў. Турнір праходзіў у Беразіно 27 і 28 жніўня.

На рахунку мядзяльчан дзве перамогі і адно паражэнне. Яго атрымалі ад каманды з Пухавіцкага раёна, якая і перамагла.

## Маладзечанец лепшы ў настольным тэнісе сярод міліцыянераў

МАЛАДЗЕЧНА

У Лядовым палацы ў Маладзечне прайшоў турнір па настольным тэнісе сярод супрацоўнікаў міліцыі Мінскай вобласці. Адбыўся ён у межах спартакіяды па службова-прыкладных масавых відах спорту.

Удзельнічалі больш за 50 міліцыянераў.

У асабістым першынстве першае месца заняў оперупаўнаважаны аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС **Мікіта Посах**.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Аляксеем ВАЛАСКОВІЧАМ.

Аляксей Валасковіч са сваімі выхаванцамі падчас семінара з удзелам сэнсэя Макота Іта.

# Маладзечанскай школе айкідо – 20 гадоў

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанская Школа айкідо за дваццаць гадоў з невялікай групы дзяцей пераўтварылася ў паўнавартасную школу са сваімі настаўнікамі, напрацаванай сістэмай навучання, дзе акрамя рэгулярных трэніровак, накіраваных на фізічнае развіццё, асаблівая ўвага надаецца выхаванню, прывіццю станоўчых якасцяў чалавека.**

З нагоды гэтай круглай даты, мы вырашылі ўзяць інтэрв'ю ў выпускніка Школы айкідо, а цяпер аднаго з яе выкладчыкаў – **Аляксея Валасковіча:**

**– Аляксей, колькі гадоў вы займаецеся айкідо?**

– Дваццаць. Я пачаў трэніравацца ў першым наборы Школы айкідо, затым працягнуў заняткі ў клубе з дарослымі. Так што ў мяне сёлета таксама своеасаблівы юбілей.

**– Што значыць айкідо для вас?**

– Калі сказаць коратка, як і любое іншае баявое мастацтва, – гэта не проста завучаны набор тэхнік. За кожным баявым мастацтвам стаіць пэўная філасофія і жыццёвая каштоўнасці. У маім разуменні айкідо – гэта эфектыўная сістэма ўзаемадзеяння з жыццёвымі сітуацыямі: няхай гэта будзе канфлікт з чалавекам ці чарговыя цяжкасці, якіх поўна ў нашым жыцці. Асноўны прынцып айкідо – выкарыстанне сілы, накіраванай на цябе, – добра выкарыстоўваецца і ў дачыненні і ў простых жыццёвых сітуацыях. Напрыклад, цяжкасць або боль, якія ўзнікаюць на жыццёвым шляху, ўспрымаюцца не як нейкае зло, а як карысны вопыт, сустракаючыся з якім, чалавек становіцца больш устойлівым і разумным.

**– Што, па-вашаму, самае важнае ў працы з дзецьмі?**

– Адказнасць. Неабходна ўсвядоміць, што кожнае дзіця возьме ў дарослае жыццё многае з таго, што ён засвоіў на трэніроўках: як пераадольваць ляноту і страх, неабходнасць старацца, вытрымліваць напружанне, умение рэагаваць на канфліктныя сітуацыі. На адказнасці будуюцца адносіны да сваёй працы, матывацыя для пастаяннага ўдасканалення сябе як выкладчыка.

**– Якімі прынцыпамі вы карыстаецеся пры працы з дзецьмі?**

– Адзін з асноўных прынцыпаў – улічваць індывідуальнасць кожнага дзіцяці. Тое, што будзе добрым урокам для аднаго вучня, можа стаць псіхалагічнай траўмай для іншага. Аднак гэта не значыць, што камусьці дазволена трэніравацца ад сілы. Проста падыход да кожнага дзіцяці адмысловы. Яшчэ адзін прынцып – развіцця.

> **Важна акцэнтаваць увагу дзяцей на выніках сваёй працы. Калі яно бачыць, што ў нечым становіцца лепшым, імкненне пераадольваць сябе і развівацца на парадак узрастае, з'яўляецца асэнсаванасць ў сваёй працы.**

Пры гэтым ён атрымлівае вопыт рэальнага дасягнення мэтаў – важная якасць, якая неабходная ў дарослым жыцці. Наогул прынцыпаў і асаблівасцяў ў працы з дзецьмі мноства.

**– З дзецьмі якога ўзросту працаваць цяжэй за ўсё?**

– Кожны ўзрост мае свае асаблівасці і свае задачы, таму цяжкасці ёсць у працы з вучнямі любога ўзросту. І гэта добра, бо атрымаць цяперашняе задавальненне ад працы можна толькі тады, калі прыкладаеш намаганні. Гэтаму, дарэчы, важна навучыць і дзяцей. Калі яны разумеюць, што задавальненне можа прыносіць сур'ёзная праца з пераадоленнем цяжкасцяў, менавіта тады яны пачынаюць адказна ставіцца да сябе і свайго жыцця.

**– А якія бачныя вынікі вы можаце адзначыць у сваіх вучняў?**

– Ужо на першым годзе навучання дзеці прыкметна мяняюцца: становяцца каардынаванымі і гнуткімі, многія забываюць на хваробы, капрызныя становяцца больш стрыманымі, а гультаяватыя – больш старannымі. Бацькі нярэдка адзначаюць, што дзіця стала больш актыўнае і сабранае, хутчэй выконвае дамашнія заданні, палепшаюцца зносіны з аднагодкамі. І, вядома ж, заўсёды радуюць выступленні нашых вучняў і выпускнікоў на міжнародных атэстацыйных семінарах па айкідо. Дарэчы, апошні з іх прайшоў у нашым родным Маладзечне ў сувязі з 20-годдзем нашай школы з удзелам сэнсэя **Макота Іта**, інструктара Сусветнага цэнтра айкідо ў Токіа.

**Яўгенія МАРОЗАВА.**




СМАЧНА ЕСЦІ

# Яблычны пірог, які хутка гатуецца, а выглядае як торт



**Сёлета лета сапраўды яблычнае, а таму сям'я Ільюшонак выкарыстоўвае гэту магчымасць памаксімуму, каб назапасіцца вітамінамі.**

– Ядзім яблыкі, выціскаем сок, – расказвае Кацярына. – Цяпер пяку шарлотку, а сыну вельмі падабаюцца аладкі з яблыкамі. Зразумела, што аднастайныя стравы хутка надакучаць і мае мужчыны пачнуць круціць носам. Таму спрабую нешта новае.

З намі жанчына падзялілася рэцэптам яблычнага пірага з безэ.

**Інгрэдыенты для цеста:** *250 грамаў мукі, можна больш, 100 грамаў цукру, 3 жаўткі, 100 грамаў сметанковага масла.*

**Для начынкі:** *3-4 яблыкі, 50 грамаў цукру (можна і больш, але не люблю, каб ад салодкасці ажно ў вушах пішчала), 3 бялкі.*

**Спосаб прыгатавання:** у міску пакладзіце мяккае сметанковае масла, дадайце цукар і жаўткі, размяшайце. Пасля ўсыпце муку і замясіце цеста. Выкладзіце яго ў форму і сфарміруйце борцік, затым пастаўце ў халадзільнік. У гэты час займіцеся начынкай.

Яблыкі пачысціце і парэжце кубікамі. Пакладзіце ў каструлю, усыпце цукар і тушыце яблыкі хвілін 10-15, пакуль не стануць мяккімі. Павінна атрымацца густая маса, як варэнне. Выкладзіце яе ў форму. Выпякайце пірог у духоўцы. Астудзіце.

У гэты час узбіце бялкі з цукрам да пены. Уліце на пірог і пастаўце ў духоўку, пакуль не зарумяніцца. Рэжце, калі астыне, так ён не разваліцца.

Стаўце чайнік і каштуйце.

**Кацярына ІЛЬЮШОНАК.**

Падзяліцеся рэцэптам фірменнай стравы з чытачамі. Дашліце іх на электронную пошту region-news@rh.by, пажадана з фотаздымкамі.

За свае старанні пераможца зможа пабыць з кампаніяй на дзесяць чалавек у банкетнай зале "Глушэц", якая знаходзіцца ў Маладзечне па Ларына, 2-а.



Фота films-mobile.ru.

Кадр з фільма "Механік".

# На што можна пайсці, каб выратаваць каханую

КІНО МАЛАДЗЕЧНА

Французска-кітайскае фэнтэзі "**Дзевяць жыццяў**" прэзентуе кінатэатр "Радзіма". Гэта гісторыя пра мільядэра Тома, у якога не хапае часу на сям'ю. Яго дачка марыць пра ката, і Том яго набывае. Спяшаючыся на свята дачкі, ён трапляе ў аварыю.

Калі мільядэр прыходзіць у сябе, то апынаецца ў целе ката, пакуль цела Тома ў бальніцы.

І каб не застацца на ўсё жыццё катом, яму даводзіцца неяк даць зразумець родным, што ў целе ката бацька, які моцна раскайваецца.

Сумесны французска-амерыканскі баявік "**Механік**" – карціна з **Джэйсанам Стэйтамам** у галоўнай ролі.

У гэтым фільме распавядаецца пра складаны выбар **Артура Бішопа**, які даўно пакінуў крымінальны свет. Яго прымушаюць зноў удзельнічаць у гульні.

Каб злодзеі вярнулі скрадзеную каханую, Артуру давядзецца выканаць заданне. Яму трэба здзейсніць тры забойствы і ідэальна абставіць іх як няшчасныя выпадкі.

У гэтым кіно вас чакаюць шыкоўныя акцёры: **Джэсіка Альба, Томі Лі Джонс**. Галоўная лінія сюжэта даволі простая, але канкрэтныя хады цалкам арыгінальныя.

Знята таксама найлепшым чынам, таму аматары баявікоў дакладна не выйдуць з кіназалы расчараванымі. Экшана, дзеля якога і абіраюць такі жанр, тут двайная порцыя.

КІНО ВІЛЕЙКІ І МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі і вілейскі кінатэатры распачынаюць пракат расійскай драмы "Спарта". Яна апавядае гісторыю спартсмена, які ўдзельнічае ў новым тыпе баёў "спарта". Дзве каманды саперніка насупраць адзін аднаго. Калі сілы сыходзяць, таварыша замяняе той, хто за спіной.

Для Мікалая баі – адзіная магчымасць вырашыць мноства праблемаў. За апошнія гады з ім здарылася шмат непрыемнасцяў. Пасля бойкі за гонар сяброўкі чакала турма, за гэтым ішла здрада каханай, а трэнер адмовіўся вяртаць у каманду.

Карціна трымае ў напружанні і падыйдзе тым, хто хоча натхніцца ўзорам мужнасці.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**

Rh.by

ГАРАСКОП 1-7 ВЕРАСНЯ

**Авен.** Ад слоў, учынкаў, пачуццяў і нават думак будзе многае залежаць. Старайцеся рабіць добрыя ўчынкі і думаць пазітыўна.

**Цялец.** Не перавышайце магчымасці, будзьце аб'ектыўнымі да сябе.

**Блізняты.** Вы імкнецеся наперад з неймавернай хуткасцю, баіцеся некуды спазніцца. Аднак гэта парыў, які пераўзыходзіць вашы сілы, прыводзіць да таго, што вы паспешна прымаеце рашэнні і дзеянні не ідуць на карысць. Калі не маеце сіл, каб спыніцца, і рухаецеся па інерцыі, спытайцеся парады ў чалавека, якому можна давяраць.

**Рак.** Канчаткова выкіньце з галавы людзей, якія некалі прычынілі вам боль. Жыццё зменіцца да лепшага, вы сустрэнеце аднадумца, з якім будзе камфортна і ўтульна.

**Леў.** Тыдзень будзе сапраўды паспяховым. Вы зможаце рэалізаваць даўнія планы, дасягнуць вялікіх поспехаў. Акрамя таго навучыцеся нечаму новаму, атрымаеце веды, якія дапамогуць падняцца па кар'ернай лесвіцы альбо пачаць уласную справу.

**Дзева.** Паступова вашы звычкі, лад жыцця і стыль паводзінаў зменіцца. Не заўсёды атрымаецца прыняць правільнае рашэнне, аднак памылкі будзеце выпраўляць хутка, таму сумных наступстваў не будзе.

**Шалі.** Час добры для новых праектаў, пошуку працы, кантактаў з начальствам. Вас пачуюць, ацэняць, падтрымаюць.

**Скарпіён.** Зрабіце жыццё больш адкрытым і дынамічным, гэта дазволіць пачаць новы этап.

**Стралец.** Спатканні, новыя знаёмствы, паездкі – жыццё ў гэты час будзе настолькі насычаным, што будзе складацца адчуванне, што не хапае гадзін у сутках.

**Казярог.** Выдатны час, каб прысвяціць яго кар'еры, больш часу ўдзяліць працы і тады вашы старанні не акажуцца неацэненымі.

**Вадалей.** Верасень – выдатны час для адпачынку. У вас з'явіцца неадольнае жаданне з'ехаць некуды далёка з партнёрам і адпачыць разам.

**Рыбы.** Перастаньце кантраляваць кожны крок парнёра. Больш увагі ўдзяліце сабе, напрыклад, купіце новую рэч. Пераключыўшыся на іншае, адносіны наладзяцца.

**Аліна ЗОРНАЯ.**

СУДОКУ

| 4 |  | 6 | 9 |  |  |  |  |  |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  | 9 | 1 |  |  |  |  | 3 |  |
| 7 | 8 |  |  |  | 2 |  |  |  |
|  |  |  |  | 9 | 8 | 7 |  |  |
|  |  | 7 |  | 4 |  | 6 |  |  |
|  |  | 2 | 3 | 5 |  |  |  |  |
|  |  |  | 5 |  |  |  | 7 | 9 |
|  | 7 |  |  |  |  | 2 | 5 |  |
|  |  |  |  |  | 9 | 8 |  | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



